© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020




Зіма ўвайшла ў сілу. Фота Я. Чэрнякевіч.

№ 6 (1174) ГАЗЕТА БЕЛАРУСКІХ ДЗЯЦЕЙ У ПОЛЬШЧЫ 10.II.1980 г.

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

**Іван Бурсаў**

# Цяжкая навука

*Казка аб тым,*
*Як нялёгка зусім,*
*Хоць нарадзіўся ты*
*З лапамі і хвастом*
*Стаць катом.*

Было гэта ні зімой, ні летам, ды вядома дакладна, што перад абедам. Вывеў стары Кот маладога Катка за браму і сказаў прама:

— Хопіць табе, сын, на маёй шыі сядзець. Пабегаў, пагуляў, усмак паеў, удосыць паспаў — час і самому мышэй лавіць.

— А якія яны, мышы? — упершыню пацікавіўся Каток.

— А яны, гэта, во-о-о-сь з такімі хвастамі! — развёў стары Кот лапы як мага шырэй. І, відаць, парашыўшы, што растлумачыў дастаткова добра, на цёплую печку падаўся.

Нічога не засталося Катку, як самастойна на працу накіравацца.

Вакол хаты абышоў, уздоўж плота прабег — на луг выйшаў. Бачыць, нейкія звяры пасвяцца — хвасты ледзь не да зямлі звісаюць.

„Бач, колькі мышэй... — узрадаваўся Каток. — А хвасты ў іх яшчэ даўжэйшыя, чым бацька паказваў“.

Падкраўся ды хоп за хвост!

— М-м-му-у! — спалохаўся звер ды як махне хвастом — Каток тры разы цераз галаву перакуліўся.

Падхапіўся, абтросся — з усіх ног дамоў панёсся.

— Ну, як паляванне? — пацікавіўся стары Кот. — Упаляваў хоць адну мышку?

— Злавіў, — мяўкнуў Каток. — Толькі яна так хвастом махнула, што я тры разы цераз галаву перакуліўся.

— Дурненькі, — уздыхнуў стары Кот, — ты ўхапіў за хвост не мышку, а карову.

— А якія яны, мышы? — другі раз пацікавіўся Каток.

— А яны, гэта, — задумаўся стары Кот, — такія маленькія, шэрыя...

Нічога не заставалася Катку, як зноў на паляванне падацца.

За браму выйшаў, вакол хаты абабег — бачыць: на прызбе бабка Матруна сядзіць, у руках палачкі мільгаюць, а на зямлі каля яе нешта маленькае шэрае падскаквае — хвост доўгі, проста бабулі Матруне ў рукі цягнецца.

„Дык вось яна якая, мышка!“ — узрадаваўся Каток.

Падкраўся неўпрыкметку — цоп! — і ўчапіўся кіпцямі ў маленькае шэрае.

— Ах ты, дурненькі, — устала з прызбы бабка Матруна. — Ты чаму не даеш мне ўнуку рукавічкі вязаць? — ды як шпурне ў Катка недавязанай рукавічкай.

Яно і не балюча, ды крыўдна.

Каток абтросся — і з усіх ног дамоў панёсся.

— Ну, як паляванне? — пацікавіўся стары Кот. — Упаляваў хоць адну мышку?

— Злавіў, — мяўкнуў Каток. — Толькі бабка Матруна адабрала — рукавічкай у мяне запусціла.

І Каток расказаў усё як было.

— Дурненькі, — уздыхнуў стары Кот. — Гэта ты не мышку зла-



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

віў, а ў клубок нітак учапіўся. З іх мала карысці: ні мяса — паласавацца, ні касцей — пагрызці... Наша справа — мышы!

— А якія яны, мышы? — трэці раз пацікавіўся Каток.

— А яны, гэта, — наморшчыў лоб стары Кот, — сыр любяць. Я, помню, адну злавіў, калі яна галоўку сыру грызла.

І зноў стары Кот, вырашыўшы, што растлумачыў дастаткова добра, улёгся зручней, каб сон дасніць, а Каток трэці раз на паляванне падаўся.

Цераз двор прабег, вакол хаты абышоў, у хлеў зазірнуў. Бачыць, на бервяне звярок сядзіць, чорную скарыначку грызе. Сам маленькі, шэранькі, хвосцік да зямлі звісае.

„Па ўсіх прыкметах — мышка, — падумаў Каток. — Але чаму яна хлебную скарыначку грызе, а не сыр? Трэба спытацца, а то і трэці раз памыліцца няцяжка..."

Падышоў Каток і ледзь чутна пытае:

— Ты сыр любіш?

— Ой! — схамянулася Мышка і ад перапуду хлебную скарыначку упусціла. — люблю, — прызналася яна.

— Цудоўна! — пацёр Каток лапкі. — Урэшце я знайшоў тое, што шукаў... Зараз я цябе злаўлю і папалудную.

Зразумела Мышка, што трэба неяк выкручвацца, сваё жыццё ратаваць, — пачала хітраваць.

— Пачакай крышку, паважаны Кот, — пачала яна прасіць і наўмысна Катка Катом назвала. — Раз мне выпаў лёс табе на абед трапіць — нікуды не падзенешся. Толькі ў мяне зараз усе зубы чорныя — сам бачыў, я гарэлую скарыначку грызла. Адпусці на хвілінку дадому — зубы пачысціць. Не да твару табе, паважанаму Кату, нейкай там мышкай-замухрышкай палуднаваць.

Прыемна Катку такія словы чуць. Нават сам сябе паважаць пачаў.

— Добра, — згадзіўся, — ідзі, толькі доўга не затрымлівайся.

Шмыгнула Мышка ў норку і як у ваду канула.

А Каток аж дасюль каля норкі сядзіць — мышку чакае. Калі, вядома, не падрос за гэты час ды не паразумнеў.

Не простая гэта справа стаць добрым катом!

**З рускай мовы пераклаў**
**Рыгор Барадулін**





© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

**Г. Мароз**

# Шэранькі зайчык

Вы, дзеткі, шэранькага зайчыка ведаеце? Га? Адгукніцеся.

Ага, гэта ж баязлівец. Усяго баіцца. Калі сустрэнеш яго ў полі, уцякае, як ашалелы. Зайка сабакі баіцца. Чалавека. Нават ката. Вялікі кот, валацуга, часам кінецца на слабога зімой зайца.

Абаронай у зайца ад ворагаў, ведаеце, што служыць? Доўгія ногі. Таму, калі што да чаго, дык ён уцякае. Мала калі ён падыходзіць да вёскі. Толькі тады, калі яму сапраўды крута. Улетку зайцу вельмі добра. У полі ён пан. Ежы — колькі хочаш. Ёсць з чаго выбіраць: канюшынка салодкая, капуста сакавітая. Смачная морква. Можна паесці, як у гасцях.

Наесца зайка, пагрэецца на сонейку ды скача, куды захоча.

Толькі вось бяда — кароткае лета. Не аглянешся, а восень ужо тут як тут. Людзі з поля плады сабралі і звезлі. А ты, зайка, карміся рэшткамі. А тут і зіма надыходзіць. Надыйдуць халады. Вось тут і для зайкі бяда. Яшчэ паўбяды, калі снегу мала. Найгорш яму было мінулай зімой. Снегу было шмат, і мароз вялікі. Будзь тады разумным — пражыві. Есці няма чаго і холад дакучае. У такую пару і чалавек у хаце сядзіць. Калі ад марозу аж платы трашчаць, тады зайка смялейшы, падыходзіць да сялянскіх сяліб. Забіраецца ў агароды і сады. Шукае ежы. Абгрызае кару з дрэў. Раскіданага сена шукае. Шнуруе ўначы па падворку. Вядома, голад.

Добра, дзеткі, было б выкінуць яму за клуню сена.

Удзень зайцу таксама бяда. Паляўнічыя не даюць спакою. Страляюць па ім. Ловяць у сеткі жывых зайцаў.

Раз я кажу ў хаце:

— Сёння ў нашай вёсцы жывых зайцаў ловяць!

— Як, дзядуля, ловяць? Ты праўду кажаш? Хто ж іх дагоніць? — не верыць унучак.

Трэба было яму ўсё дакладна расказаць, што нашыя зайчыкі вандруюць у Францыю, Амерыку і ў іншыя краіны. Яны там далей жывуць. Можа, і пра бацькаўшчыну не памятаюць. Можа, ім там цяплей? Можа, больш ежы. Хто яго ведае.

А мінулай зімой вось што ў нас здарылася.

Было гэта ў снежні. Выйшаў я раніцай на падворак і бачу, ды вачам сваім не веру. Працёр вочы — не, гэта не з'ява. Сядзіць, небарака. Не ўцякае. Падышоў да яго. Не ўцякае. Толькі скуліўся. Глядзіць на мяне, нібы просячы: „Памажы, дзядзька!"

— Ага, — кажу, — прыціснула цябе, калі прыйшоў да чалавека. Ты, баязлівец.

Узяў яго на рукі. Прынёс у хату.

— Абагравайся, — кажу, — а там пабачым.

Унучак яшчэ спаў. Колькі ж было радасці, калі ўбачыў зайца. Мяне ледзь не задушыў.

Мы вырашылі: дагадуем зайца да вясны і выпусцім. Зрабілі яму месца ў склепе. Жыві сабе. Кармілі з унукам буракамі, аўсом. Зайка рос. Прыгажэў. Чакаў вясны. Трошачкі асвоіўся. Напэўна ведаў, што зла мы яму не зробім.



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

Прайшла цяжкая зіма. Сышоў снег. Сонейка паднялося вышэй. У паветры запахла вясной.

— Ну, — кажу малому, — хутка нашага выхаванца выпускаць трэба.

— Дзедка, міленькі, — просіць малы, — давай пагадуем яшчэ трошкі.

— Не час, даражэнькі мой. Далей гадаваць не можна. Бо яго месца там, — паказаў я рукою на поле. — Яго сябры чакаюць, калі жывымі асталіся.

І вось у адзін цёплы дзень панеслі мы яго ў поле. Нясу зайца я ў кошыку. Унучак маркотны плячецца за мной. Відаць, цяжка расставацца яму з гадаванцам. Прызвычаіўся да яго малы.

— Не сумуй, даражэнькі, — кажу яму ціха. — Наступнай зімой зноў будзем гадаваць. А гэты хай сабе бяжыць. Можа, за граніцу паедзе, свет пабачыць.

Раскрыў я кошык. Зайка выскачыў. Агледзеўся вакол. Адскочыў некалькі крокаў, прысеў. Потым узняўся на заднія лапкі і некалькі хвілін глядзеў на нас. Потым памаленьку паскакаў на лугі.

— Дзедка, дзедка, а што гэта ён рабіў? — пытае малы.

— Ай-яй-яй! Не ведаеш? Ён жа з намі развітваўся. „Па-па“ рабіў. Давай і мы яму памахаем. Па-па!

Унучак махае яму рукой.

— Ну, пойдзем. Ужо зайчыка не відаць.

Малы выцер рукою нос, апусціў галаву і сумны паплёўся за мною.

Цішыні я не парушаў. Хай сабе падумае.

**А. Вольскі**

# СОН

*Скача зайчык па капусце.*
*Носіць сон у белай хусце.*
*— Зайчык, зайчык! Прыбяжы,*
*Тую хусту развяжы.*

*Адпусці на волю сон,*
*Каб і мне прысніўся ён!..*

*Скача зайчык па градзе,*
*А да нас ўсё не йдзе.*

*— На, сабачка, хлеба лусту.*
*Адбяры ў зайца капусту!..*

*Прынясі у хату сон,*
*Каб і мне прысніўся ён...*

*З'еў сабачка хлеба лусту.*
*Адабраў у зайца хусту.*

*Сон у хату прыцягнуў.*
*І адразу я заснуў.*

*А які мне сон прысніўся,*
*Я да раніцы забыўся.*





© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

 **ПАГЛЫБЛЯЙ**  **СВАЕ ВЕДЫ** 

Крыжадзюб

Вялікая сініца

Попаўзень

Сойка

Сарока

Снягір

Верабей

Шчыгол

**Разгледзь птушачак і прачытай, як яны называюцца. Даведайся, як гэтых птушачак называюць у вашай вёсцы.**



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

# Пазнаёмімся

* ✲ *

БССР, 231800, г. Слонім, Гродзенскай вобласці, пер. Прырэчны, 13. Святлана Катко, вучаніца 7 класа.

* ✲ *

БССР, 231800, г. Слонім, Гродзенскай вобласці, вул. К. Маркса, 48, кв. 10. Тамара Крэчык, вучаніца 7 класа.

* ✲ *

БССР, 231800, г. Слонім, Гродзенскай вобласці, вул. К. Маркса, 44, кв. 10. Алена Мінчук, вучаніца 7 класа.

* ✲ *

БССР, 231800, г. Слонім, Гродзенскай вобласці, вул. Чэрняхоўскага, 1, кв. 5. Алена Чарняева, вучаніца 7 класа.

* ✲ *

БССР, 231800, г. Слонім, Гродзенскай вобласці, вул. Даватара, 4а, кв. 35. Света Смолкіна, вучаніца 7 класа.

* ✲ *

БССР, 231800, г. Слонім, Гродзенскай вобласці, вул. Даватара, 6а, кв. 66. Галіна Красько, вучаніца 7 класа.

* ✲ *

БССР, 231800, г. Слонім, Гродзенскай вобласці, вул. Даватара, 8а, кв. 66. Таня Сячкова, вучаніца 7 класа.



**Юрка Войцюк прачышчае сцежкі на сваім падворку.**

**Фота Я. Чэрнякевіч.**



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020




Мама вучыць свайго сына-дашкольніка чытаць:

— Прачытай, Дзіма, гэтае слова.

— Му-ха-мор.

— А цяпер паўтары. Што ў цябе атрымалася?

— Не ведаю.

— Яшчэ раз чытай.

— Му-ха-мор.

— Што атрымалася?

— Грыб.

* * *

— Я ўчора мог купіць Фіята за дзесяць тысяч.

— Дык чаму ж не купіў?

— Гаспадар Фіята не хацеў яго прадаць.

## ХТО КАГО БАІЦЦА

Адвячоркам на падворку
Чуў я гэткую гаворку.
— Самы дужы звер — пантэра, —
Пошапкам сказала Вера.
Леў мацней за ўсіх звяроў,
Мае сілу — будзь здароў.
Не баіцца ён нікога, —
Заявіў рашуча Гога.
— Не, не так, — смяецца Міша, —
Кажуць, леў баіцца мышак.

**У. Мацвеенка**

## ХВАЛЬКО

Аднойчы снежным зімнім ранкам —
У час канікул акурат было —
Янук, узяўшы бацькаву бярданку,
Паважна крочыў за сяло.
І так сабою выхваляўся:
„Абы мне воўк ці ліс папаўся,
Не буду — я, калі адразу ж не ўпяку! —
Даваў ён хлопцам наўзаклад руку. —
Пабачыце увечары, рабяты,
З якой здабычаю прыйду дахаты...“
І вось пагрозлівы герой
Тым часам апынуўся за гарой,
Па снезе наўскасяк
Да бору шлях трымае.
І раптам з-за кустоў бяляк
Яму наперарэз, нібы здурнелы, выбягае.
Стрыжэ вушамі, косіць вокам...
Ад зайца-бокам,
бокам наш Янук.
і... выпусціў бярданку з рук.

**М. Васілюк**




**Да трох кружкоў, якія бачыце на малюнку, дамалюйце ў палях гэтага квадрата яшчэ дзевяць так, каб у кожным радзе — гарызантальным, вертыкальным і па дыяганалях было па два кружкі.**

**Адрас рэдакцыі: „Зорка“, 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1.**

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020